# ШТО ЧЫТАЦЬ.

## Што чытаць к Ленінскім дням.

1) **Ліліна З.** „Великий учитель". У гэтай кніжцы матар'ял можна падабраць для рознага піонэрскага ўзросту. Тут многа матар'ялу для дакладаў і гутарак, а таксама добра і для самастойнага чытаньня. Выдавецтва ГІЗ. 1925 г., цана 1 р. 20 к.

2) **Ульянава А.** „В. И. Ульянов (Ленин). Детские школьные годы". Выдавецтва Новая Масква 1925 г., стар. 30, цана 10 кап.

Кніжка пераносіць нас у сямейныя абставіны, малюе нам блізкіх яму людзей і тыя першыя ўражаньні, якія памагалі складаць яго асобу, якія выкоўвалі будучага правадыра пролетарыяту.

Другі, блізкі Ўладзімеру Ільічу чалавек Н. К. Крупская апісала больш позьні пэрыяд яго жыцьця: работу сярод Піцерскіх рабочых, жыцьцё ў высылцы ў Мінусінскім краі і за межамі ў эміграцыі. Калі для самастойнага чытаньня кніжка можа быць зацяжка, тады многа дае практычнага матар'ялу для гутарак у атрадзе і школе. Гэта кніжка завецца

3) **„Воспоминания"**. Выдавецтва газэты „Правда". 1925 г., стар. 62, цана 25 кап.

4) **„Ленин и дети"**. З малюнкамі. Зьмест: Маладому чытачу. Ільіч і яго дзяцінства. Дзеці і Ленін. Вялікая жалоба. Жалобны лісток. У вялікае магілы. У гэтыя дні. Успаміны. Пасьля пахаваньня. Выдавецтва „Молодая Гвардия" 1925 г., стар. 120, цана 30 кап.

5) Для малодшага і сярэдняга ўзросту лепшая кніжка, жыва і ўмела складзеная, прыстасаваная да дзіцячага ўзросту гэта—

**„Детям о Ленине"**.—Складзеная Інстытутам па Дзіцячаму чытаньню, пад рэд. Краўчэнка. ГІЗ. 1927, стар. 71, цана 1 р. 25 к.

П. Замойскі.—**Ліст Ільлічу**. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, цана 20 кап.

У гэтай кніжцы апісваецца, як адзін малы хлопчык, з глухое вёскі напісаў да Ільіча ліст і як Ільіч дапамог яму і яго вёсцы.

6) **З. Ліліна**. „Наш настаўнік—Ленін" Дзяржаўнае Выд. Беларусі, цана 6 к.

---

## Што чытаць аб Карле Лібкнэхце.

1) **З. І. Ліліна**. „К. Либкнехт и дети". ГІЗ. 1924 г. Вельмі многа ўлучана ўвагі высьвятленьню асобы гэтага правадыра. Вось ён цікавіцца прыродай, вось яго сяброўскі ліст к сыну, вось яго каханьне да мастацтва, да музыкі.

2) **„Жалезны Карл"**. Валянціна Кордэс. ГІЗ. 1926 г., стар. 40, цана 15 кап.

Гэта кніжка зусім іншага характару і дапаўняе першую. Калі ў першай галоўная ўвага ўлучалася высьвятленьню К. Лібкнэхта, як чалавека, то ў другой—ён перш за ўсё—правадыр, „Жалезны Карл". Першая дае нам магчымасьць уведаць асобу гэтага чалавека. Другая—больш прыводзіць матар'ялу аб яго рабоце. Напісана яна больш суха, больш дзелавіта, пагэтаму, калі першую прачытаюць самастойна і малодшыя дзеці асабліва асобныя старонкі, настолькі другая прыстасавана больш старэйшаму ўзросту. Побач з сур'ёзным матар'ялам, перададзены такія рысы асабістага жыцьця Лібкнэхта, нават вершы яго ўласных твораў. Самае лепшае мець абедзьве кніжкі—яны дапаўняюць адна другую.

3) **Далінскі С.**—„Боритесь, как он". Выдавецтва. 1925 г., стар. 40, цана 25 кап.

Цікава напісана біографія Карла Лібкнэхта. Будзе чытацца з вялікаю цікавасьцю піонэрамі і вучнямі сярэдняга і старэйшага ўзросту.

---

**Габрусь і Рудзік**.—Апавяданьне для дзяцей з малюнкамі. Цана 30 кап, стар. 11.

У гэтым невялічкім апавяданьні досыць жыва і яскрава перадаецца сяброўства малога хлопчыка Габруся з сваім сабачкам Рудзікам. Габрусь, каб выратаваць ад бяды свайго любімага Рудзіка, бяз страху лезе за ім на дно глыбокае студні і з сілай вызваляе ад пагібелі Рудзіка.

Асабліва прыгожа выкананы ілюстрацыі да апавяданьня.

Кніжку з ахвотай і цікавасьцю прачытаюць дзеці меншага ўзросту. Для дзяцей старэйшых яна не падыдзе.

---

## ЗЬМЕСТ



---

Рэдколегія: АДЗІНЕЦ М., БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., ЯКІМОВІЧ. А.

Адказны рэдактар ПЯКАРЧЫК А.

*Год выданьня 4-ы.* Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . . — р. 20 к.
„ „ . . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 1** **СТУДЗЕНЬ** **1928 г.**





**Піонэры ў клюбе.**

*(Падрыхтоўка пляката да гадавіны сьмерці Ільліча).*

З карціны мастака **М. Філіповіча.**






**М. Горкі.**

... Натоўп людзей нагадваў сабою васеньні, цёмны вал мора, які толькі-што ўзбудзіўся ад першага подыху буры: ён плыў павольна наперад, шэрыя абліччы людзей былі падобны да мутна-пеністых верхавінаў хваль.

Вочы блішчэлі ўзбуджаным імкненьнем, але людзі глядзелі адзін на другога, быццам ня верачы свайму рашэньню, дзівячыся з саміх сябе. Словы кружыліся над натоўпам, як маленькія шэрыя птушкі.

Гаварылі паціху, сур'ёзна, быццам апраўдываліся адзін перад другім.

— Няма больш магчымасьці трываць, вось чаму пашлі...

— Бяз прычыны народ ня пойдзе...

— Ці-ж ён гэтага не зразумее!..

. . . . . . . . . . . . . . . . .

— Ура! салдаты!—крыкнуў нехта.

Афіцэр у жоўтым башлыку на плячах выхапіў з ножан шаблю і таксама нешта крычаў на натоўп, махаючы ў паветры выгнутай палоскай сталі. Салдаты сталі нярухома плячо к плячу адзін з другім.

— Чаго гэта яны?—запыталася поўная жанчына.

Ёй не адказалі. Усім неяк раптам стала цяжка йсьці.

— Назад!—данёсься крык афіцэра.

Некалькі чалавек аглянулася. Ззаду іх стаяла шчыльная маса цел, з вуліцы ў яе лілася бесканцовым струменем цёмная рака людзей. Натоўп, адступаючы ад яе напору, рассоўваўся, запаўняючы пляц перад мостам. Некалькі чалавек вышла наперад і, матаючы белымі хустачкамі, пайшлі насустрач афіцэру. Ішлі і крычалі:

— Мы да гасудара нашага...

— Назад! Я загадаю страляць!

Калі голас даляцеў афіцэра да народа, ён адказаў яго словам гучным рэхам зьдзіўленьня. Аб тым, што недапусьцяць да „яго“, некаторыя з натоўпу гаварылі і раней, але каб сталі страляць у народ, які ідзе к „яму“ спакойна, з вераю ў яго сілу і дабрату, гэта нарушала цэласьць яго вобразу, як вобразу цара. „Ён“—сіла вышэй усялякай сілы, і яму няма каго баяцца, яму няма за што цурацца свайго народу і адганяць яго штыкамі і кулямі... Пагроза страляць была крыўднай і беспадставаўнай...

Худы высокі чалавек з галодным тварам і чорнымі вачыма раптам закрычаў:

— Страляць? Ня сьмееш!..

І, зьвяртаючыся да людзей, моцна, злосна гаварыў:

— Што? Казаў я няпусьцяць яны...

— Хто, салдаты?

— Не салдаты, а—там...

Ён матнуў рукой кудысьці ўдаль.

— Вышэй якія... Ага! Я-ж гаварыў!

— Гэта яшчэ невядома...

І раптам у паветры нешта няроўна і суха рассыпалася, засьвістала, ударыла ў натоўп людзей нябачнымі бічамі. На момант усе галасы раптам нібы замерлі. Маса ўсё яшчэ ціха пасоўвалася наперад.

— Пустымі...—ня то сказаў, ня то запытаўся нечы голас!

Але тут і там пачуліся стогны, ля ног натоўпу лягло некалькі цел. Жанчына,

моцна вохкаючы, схапілася рукой за грудзі і борздымі крокамі пашла наперад, на штыкі выцягнутыя насустрач ёй. За ёю кінуліся яшчэ людзі і яшчэ, забягаючы наперад яе.

І ізноў грук ад залпа стрэлаў, яшчэ больш няроўны. Тыя, што стаялі ля плота, чулі, як затрашчалі дошкі,—быццам нечыя нябачныя зубы злосна грызьлі іх. А адна куля шарахнулася па дрэве ля плота і, сьцярушыўшы з яго дробныя шчэпкі, кінула іх у аблічча людзей.

Людзі падалі падваіх, патраіх, прысядалі на зямлю, хапаючыся за жываты, беглі недзе, кульгаючы, паўзьлі па сьнезе, і ўсюды на сьнезе выбухнулі яскравыя чырвоныя плямы. Яны распаўзаліся, дыміліся, прыцягваючы да сябе погляды... Натоўп падаўся назад, на момант спыніўся, замёр, і раптам разьнёсься дзікі трывожны лямант соцень галасоў. Ён радзіўся і паплыў у паветры неперарыўнай, напружанай дрыжачай стракатай кучай крыкаў, гострай болі, помсты, жаху, протэсту і выклікаў аб дапамозе.

Нахіліўшы галовы, людзі групамі кінуліся наперад падбіраць мёртвых і параненых. Параненыя таксама крычалі, пагражалі кулакамі, усе аблічча раптам сталі другімі, і ва ўсіх вачох зьзяла штосьці нявыразнае.

Суматохі, таго становішча агульнага чорнага жаху, які раптам ахапляе людзей знадворку і з сярэдзіны, згортвае людзей, як вецер сухое лісьцё ў кучу, зацягвае іх у невядомую сетку і цягне, гоніць кудысьці ў дзікім віхры,—суматохі ня было. Быў жах, але халодны пякучы, як прамёрзлае жалеза, ён ледзяніў сэрца, сьціскаў цела і прымушаў глядзець шырока адчыненымі вачыма на кроў, якая ўбірала ў сябе сьнег, на пакрываўленыя аблічча, рукі, адзеньне, на трупы зюдзей, якія былі страшна спакойнымі ў гэткім хваляваньні жывых людзей. Было страшэннае абурэньне, журбота, бясьсільная злосьць, шмат на дзіва нярухомых вачэй, нахмураных брывей, моцна сьціснутых кулакоў, нэрвовых рухаў і сьмелых калючых слоў.

... Людзі тапталіся на адным месцы, быццам спутаныя нечым, чаго не маглі парваць, адны моўчкі і з заклапочанасьцю насілі параненых, падбіралі мёртвых, другія, быццам у сьне і быццам здалёк глядзелі на іх работу, ашаломлена, у дзіўным бяздзейнічаньні. Шмат якія крычалі салдатам словы дакораў, лаянкі і скаргі, размахваючы рукамі, зьнімалі шапкі, чамусьці кланяліся, пагражалі страшным гневам ад кагосьці...

Салдаты стаялі нярухома, спусьціўшы стрэльбы к назе, аблічча ў іх былі таксама нярухомымі, скура на шчоках туга нацягнулася. Здавалася, што ва ўсіх салдат—белыя вочы і зьмерзьліся губы...

Сярод натоўпу нехта крычаў:

— Памылка! памылка вышла, браткі!.. Не за тых палічылі! Ня верце!..

— Ідзі, браткі... трэба растлумачыць!..

— Гапон—здраднік! — крычаў падростак - хлопчык, узлазячы на ліхтарны слуп.

— Што, таварышы, бачыце, як спатыкае вас?..

— Пачакай.. гэта памылка... ня можа быць гэтага... ты зразумей! Ці-ж ты не чалавек?..



Настаяшчае прозьвішча Максіма Горкага—Аляксей Максімавіч Пяшкоў. Мала хто цяпер ня ведае аб славутым расійскім пісьменьніку Горкім. За яго плячыма вялікае і цікавае жыцьцё працы і змаганьня. М. Горкі паходзіць з рабочага асяродзьдзя.

Цяпер М. Горкі жыве ў Італіі, ў гор. Сарэнта; там ён лечыцца. Але, жывучы за мяжой, Горкі добра ведае Савецкі Саюз і піша для яго.

— Гэта вы ня людзі, вы—авечкі, стадак, і вось як вас...

— Прапусьці... дай дарогу...

— Дай дарогу параненаму!..

Двое рабочых і жанчына вялі высокага худога чалавека, ён быў увесь у сьнезе, з рукава яго пальта капала кроў. Твар у яго пасінеў, загастрыўся яшчэ больш, цёмныя губы, слаба варушачыся, прашапталі:

— Я казаў... ня пусьцяць, яны яго хаваюць... што ім—народ?!

— Таварышы... Коньніца!..

— Бяжы!..

Сьцяна салдат заварушылася і адчынілася, быццам дзьве палавінкі варот. Скачучы і фыркаючы, між імі праехалі коні, пачуўся крык афіцэра, над галовамі коньніцы ўзьвіліся, разрэзаўшы паветра, шаблі, замахнуліся ўсе ў адзін бок. Натоўп стаяў і калыхаўся, хвалюючыся, ня верачы.

Стала цішэй.

— Марш!—пачуўся грозны крык.

Як быццам віхар ударыў у абліччы людзей, і зямля быццам абвярнулася вакол пад іх нагамі. Усе кінуліся бегчы, штурхаючы і валяючы адзін другога, кідаючы параненых, скакаючы праз мёртвых.

Цяжкі тупат коняй даганяў іх, салдаты вылі, іх коні скакалі праз параненых, тых, што кідаліся ад мятусяніны, мёртвых, зіхацелі шаблі, часамі чутны быў сьвіст сталі і ўдар яе аб косьці. Крык катуемых зьліваўся ў гучны і працяглы енк...

— А-а-а-!

Салдаты ўзмахвалі шаблямі і апускалі іх на галовы людзей. І разам за ўдарам целы іх нахіляліся на бок. Абліччы ў іх былі чырвоныя, вочы затуманены і здаваліся яны апухшымі і тупымі... Ржалі коні, страшна скалячы зубы, узмахваючы галовамі...

Народ сагналі з вуліцы... І зараз-жа як толькі грукат коняй зьнік у далі, людзі спыніліся, задыхаўшыся, паглядзелі адзін на другога дзіўнымі вачыма. На шмат якіх абліччах зьявіліся вінаватыя ўсьмешкі, і нехта засьмяяўся, крыкнуў:

— Ну і бег-жа я!

—Тут пабяжыш!..—адказалі яму.

І раптам з усіх бакоў пасыпаліся наракацьні, выгукі злосьці:

— Што-ж гэта, браткі, га?

— Забойства йдзе, праваслаўныя!

— За што?

— Вось дык правіцельства!

— Сякуць, га? Коньмі топчуць...

... Малады голас энэргічна паклікаў:

— За параненымі, гэй! Ідзеце падбіраць параненых!

Усе ўзварухнуліся, хутка пайшлі да выйсьця к рацэ. А на сустрач ім у вуліцу ўпаўзалі па сьнезе і ўваходзілі хістаючыся на нагах пакалечаныя людзі, у крыві і ў сьнезе. Іх бралі на рукі, несьлі, спынялі звозчыкаў, недзе адвозілі, Усе сталі заклапочанымі, хмурымі, маўклівымі. Разглядалі параненых, нібы ўзважваючымі вачыма, нешта моўчкі вымяралі параўноўвалі, напружана шукалі адказаў на страшнае пытаньне, якое паўстала перад імі, як цёмная, няясная цень... Гэта пытаньне засланяла, зьнішчала вобраз нядаўна выдуманага гэроя, які мог мілаваць і дарыць. Але толькі нямногія адважваліся адчынена перад усімі прызнацца, што гэты вобраз ужо разбураны. Прызнацца ў гэтым было цяжка,—гэта азначала тое, што трэба было пазбавіць сябе адзінай надзеі...

Ішоў лысы чалавек, у пальто з рыжай латай, яго цёмны чэрап цяпер быў афарбаваны крывёю, ён апусьціў плячо і галаву, ногі ў яго згібаліся. Яго вялі шырокаплечы хлопец з кучаравай галавой і жанчына ў разадраным кажушку, з бязжыцьцёвым тупым тварам.

— Пачакай, Міхайла... Як-жа цяпер?—мармытаў паранены.

— Страляць без загаду ў народ... не дазваляецца... Не павінна гэтага быць, Міхайла.

— Вось—было!—пачуўся крык.

— І стралялі і секлі...—Сумна заўважыла жанчына.

— Значыцца, загад быў на гэта, Міхайла...

— І быў!—злосна крыкнуў хлопец.

— А ты думаў з табою размаўляць будуць? віна шклянку паднясуць?

— Пачакай, Міхайла...

Паранены спыніўся, абапіраючыся аб сьцяну, і мацней загаварыў:

— Праваслаўныя!.. Завошта нас забіваць? Дзе гэткі закон узялі? Чый загад такі быў?

Людзі йшлі міма яго і апускалі галовы.

У другім месцы на рагу ля плота сабралася некалькі дзесяткаў чалавек, і ў сярэдзіне іх нечы скоры голас гучэў трывожна і злосна:

— Гапон учора быў у міністра, ён ведаў усё, што будзе, значыцца—ён здраднік нам, значыцца—ён павёў нас на сьмерць.

— Якая яму карысьць?

— А я—ведаю? Якая карысьць народ забіваць? Хто гэта ведае?

Усюды разгарэлася хваляваньне, перад усімі паўставалі пытаньні яшчэ няясныя, але ўжо кожны адчуваў іх сур'ёзнасьць, глыбіню, суровы тон, настойлівае патрабаваньне адказу. У агні хваляваньня ўсё больш хутка пагасала вера ў дапамогу збоку, надзея на цара...

Пасярэдзіне вуліцы йшла жанчына, поўная, дрэнна адзетая, з добрым абліччам маткі, з вялікімі, засмучанымі вачыма. Яна плакала і, падтрымліваючы правай рукой пакрываўленую левую, казала:

— Вось, скалечылі... як цяпер буду працаваць? Чым карміць дзяцей?.. І каму мне жаліцца?.. Праваслаўныя, дзе-ж у народа абаронцы, калі і цар супроць яго? Праваслаўныя, куды нам ісьці?

Яе пытаньні, гучныя і ясныя, як быццам разбудзілі людзей, ускалыхнулі і ўстрывожылі іх. Да яе хутка падыходзілі, беглі з усіх бакоў і, спыняючыся, слухалі яе словы самотна і ўважліва.

— Значыцца, народ адзін? Няма для яго закону, няма дапамогі? Як будзем жыць цяпер? На што спадзявацца?

Маўчалі. У некаторых вырываліся ўздыханьні. Іншыя паціху лаяліся. Аднекуль пачуўся рэзкі, злосны крык.

— Так!.. Атрымаў дапамогу—сыну нагу разьбілі...

— Пятруся—на сьмерць!..

Гэтых крыкаў было шмат на вуліцы, яны зьвінелі ў вушох людзей, і, усё часьцей выклікаючы рэха помсты, абуджалі агульнае для ўсіх пачуцьцё



**9-ае студзеня.** *З карціны мастака* Пчэліна.

злосьці, сьвядомасьць неабходнасьці бараніцца ад забойцаў.

На бледных абліччах вызначалася нейкае рашэньне.

— Таварышы! Мы, усё-такі, хадзем у горад... Можа чаго небудзь і даб'емся... Хадзем, патроху!

— Пераб'юць...

— Давайце казаць салдатам... можа, яны зразумеюць, што няма закона забіваць народ!

— А можа ёсьць, адкуль мы ведаем?

— Хто за нас? Хто проці нас?

Натоўп памалу, але няўхільна зьмяняўся, перараджаючыся ў народ. Моладзь разыходзілася невялікімі групкамі, усе яны йшлі ў адзін бок, зноў к рацэ. І ўсё несьлі параненых, забітых, пахла цёплай крывёю, разносіліся енкі, выгукі.

— Якаву Зіміну—проста ў лоб...

— Дзякаваць толькі бацюшкі-цара!

— Та-ак... спаткаў!

Пачулася некалькі моцных слоў.

Нават за адно з іх чвэртку гадзіны таму назад натоўп разарваў-бы чалавека на кавалачкі.

Маленькая дзяўчынка бегла і крычала ўсім:

— Ня бачылі маму? Вялікая такая?

Людзі маўкліва аглядваліся на яе і, быццам баючыся яе, давалі ёй дарогу.

Пасьля пачуўся голас жанчыны з разбітаю рукой:

— Тут, тут я...

Вуліца пусьцела. Моладзь адыходзіла ўсё хутчэй. Пажылыя людзі самотна, не сьпяшаючыся таксама йшлі кудысьці. Усе ведалі, аб чым думае кожны. Гаварылі мала... Толькі часамі хто небудзь, ня стрымаўшы крыўды ў душы, крычаў нямоцна:

— Значыцца, народ адкінулі, адпіхнулі цяпер?

І голас больш пякучы хваравіта цягнуў:

— Забойцы праклятыя... што зрабілі?

Шкадавалі аб забітых людзях і, здагадваючыся, што забіта таксама адна цяжкая, рабская забабона—вера ў цара—асьцярожна маўчалі аб ёй, не успамінаючы больш жудаснага імя яго, каб ня трывожыць на сэрцы суму і гневу...

Цямнела. Але агні не запальваліся...

— Драгуны!—крыкнуў хрыплы голас.

З-за рога раптам выскачыў невялікі конны атрад, некалькі сэкунд коні нерашуча тапталіся на месцы і раптам памчаліся на людзей. Салдаты дзіўна завылі, зараўлі і было ў гэтым гуку нешта нечалавечае, цёмнае, сьляпое, незразумела блізкае сумнаму адчаю. У цемры і людзі, і коні сталі драбнейшымі і чарнейшымі. Шашкі блішчалі цьмяна, крыкаў было менш і больш чулася ўдараў.

— Бі іх чым папала, таварыш. Кроў за кроў... бі!

— Бяжы... бяжэце!

— Ня сьмей, салдат!

— Таварышы, каменьнямі!

Валяючы пад ногі маленькія цёмныя фігуры, коні скакалі, ржалі, хрэплі, зьвінела сталь, чулася каманда:

— Аддзяленьне...

Сьпявала труба пасьпешна і нэрвова. Беглі людзі, штурхаючы адзін другога, кідаючыся. Вуліца пусьцела, а пасярод яе на зямлі зьявіліся цёмныя гурбы і недзе ў глыбіне, за паваротам чуўся цяжкі борзды тупат каняй...

— Вы паранены, таварыш?

— Адсеклі вуха... здаецца...

— Што зробіш з голымі рукамі!..

У пустой вуліцы гулка адбівалася рэха ад стрэлаў.

— Не змарыліся яшчэ... Чэрці!

Маўчаньне. Пасьпешныя шагі. Гэтак дзіўна, што мала гукаў і няма руху на гэтай вуліцы. Адусюль нясецца глухі, вільготны гуд,—быццам мора ўлілося ў горад.

Дзесьці блізка ціхі енк калышацца ў цемені... Нехта бяжыць і дыша цяжка, з перапынкамі.

Трывожнае пытаньне:

— Што, паранены, Якаў? Гэй!

— Пастой... нічога!—адказвае хрыплы голас.

З-за вугла, куды зьніклі драгуны, зноў зьяўляецца натоўп і густа цячэ на ўсю шырыню вуліцы. Нехта, ідучы наперадзе, гаворыць:

— Сёньня з нас узялі крывёю абавязацельства—з гэтага часу мы павінны быць грамадзянамі. Нэрвова ўсхліпнуўшы, яго перабіў другі голас:

— Так... паказалі сябе айцы нашы! І нехта пагражаючы прамовіў:

— Мы не забудземся пра гэты дзень!

— Колькі перабіта людзей!

— За што? За што?

(*Адрыўкі з кнігі—„9-е января“*).

# ДЗЕЦІ АБ СЬМЕРЦІ ЛЕНІНА.

## Памёр Ленін.

Ціхая марозная раніца...

Залаціста-ружовы сьвет сонца адбіваецца на замёрзлых вокнах ясравым адбіткам, робячы ў хаце сьветлыя праменьні.

На дварэ скрыпіць пад нагамі сьнег...

Весела і хутка бягуць дзеці ў школу. Мароз іх шчыпле за нос і вушы, але ім нічога, яны з сьмехам труцЬ на хаду свае насы і лепш нацягваюць на вушы шапкі.

У школе зноў вясёлыя крыкі і шумнае беганьне дзяцей па калідоры.

— Дзын - дзын - дзын... зьвініць званок...

Усе садзяцца на месцы.

Цераз некалькі хвілін у клясу ўвайшоў настаўнік.

Твар яго быў белы, як сьнег.

Ён паволі падышоў да стала і, памаўчаўшы, сказаў...

— Цішэй, дзеткі... я вам зараз скажу...

Усе прытаіліся і ўпіліся поглядамі ў настаўніка, а ён стаяў і, абапёршыся локцем аб стол, пазіраў у газэту.

— Ну, што? пыталіся ў настаўніка дзіцячыя погляды.

Настаўнік падняўся, акінуў поглядам дзяцей і ціха сказаў.

— *Памёр... Ленін...*

Усе замерлі... Толькі тыя, хто ня ведаў, хто быў Ленін, як-бы нічога ня ведаючы, ціхім і роўным поглядам глядзелі настаўніку ў вочы.

— Калі ён памёр?.. Ня сутрымаўся маленькі хлопчык Янка.

— Я ўчора атрымаў газэту, у ёй было гэта напісана... Пры гэтым ён паказаў газэту, на якой на цэлы ліст быў намалёван тав. Ленін, абведзены чорнай рамкай.



Дзецям стала ад нечага страшна...

Янка ўжо ня мог сутрымаць сьлёз і моцна заплакаў.

Настаўнік, яшчэ крыху памаўчаўшы, пачаў гаварыць пра жыцьцё Лёніна і пра яго барацьбу з буржуазіяй.

Калі ён скончыў гутарку, Янка зноў спытаў:

— А паглядзець можна яго?

— Каго? Леніна? Не, браток, каб мы былі блізка каля Масквы, дык мы-б яго паглядзелі.

Дзеці сумнымі разышліся. Янка застаўся і папрасіў настаўніка, каб ён яму падараваў гэту газэту.

**Маркоўка.**



## ШТО, УЖО ІЛЬЛІЧА НЯМА.

Рая Няміцава—9 гадоў—у дзеньніку сваім 22 студзеня каракулямі вывела:

Я ўстала як заўсёды. Але я заўважыла, што ў нас у сям'і штосьці трывожна. Мама плача. Я спытала ў мамы, чаму ты плачаш? Увайшла наша знаёмая, яна ціха сказала: памёр наш галоўны правадыр усяго сьвету. Я задрыжала—*што? ужо Ільліча няма?..*

## ЗІНЕ КЛАЧКОВАЙ ШКОДА ЛЕНІНА.

Яна прысьвяціла Ўл. Іл. старонку дзеньніка. Яна не разумее таго, што ён нязможа прачытаць таго, што яна яму прысьвячае.

Яна піша:

„Дарагі Ўладзімір Ільліч! Калі я дачулася аб тваёй сьмерці 22 студзеня, дык я хадзіла так, быццам у мяне чагосьці не хапае. Заўсёды была вясёлай, а ў гэты дзень я была зусім сумная. Мама і тата пыталі, чаму я гэткая сумная, а я кажу: мне вельмі шкода Леніна.

## МАНЯ З 16-га ДЗІЦЯЧАГА ДОМУ ПІША Ў СВАІМ ДЗЕНЬНІКУ.

Ленін памёр.

І ад гэтага ўсё замоўкла.

Хтосьці прабаваў засьпяваць,—не маглі і кінулі. Хтосьці плакаў. Хтосьці шаптаў: „гэта няпраўда“.

Штосьці абарвалася ў сярэдзіне, як быццам загінуў блізкі, блізкі чалавек...

Нешта падае на руку...

Гэта—сьляза. Сьлёзы засьцілаюць вочы, коцяцца па шчацэ...

Даруй, Ільліч! Будзь спакойным.

Твой вобраз будзе пуцяводнай зоркай ва ўсіх нашых справах...

## СУМНЫЯ ТВАРЫ.

Няма болей звонкіх песень. Цяжка калышуцца чорныя сьцягі. Усё чорныя з чырвоным.

Цяжка раздаецца: „Вы жэртваю палі“.

Ідуць доўгай расьцягнутай істужкай рабочыя, піонэрскія, комсамольскія калёны. Ідуць без канца.

Усё сумныя твары...

Падыходзіць цяжкая апошняя хвіліна.

4 гадзіны...Задрыгацелі фабрыкі і заводы. Схілілі сьцягі. Усе зьнялі шапкі.

Раздаліся залпы—салют!..

У гэтую хвіліну адышоў ад нас вялікі настаўнік *Уладзімер Ленін!...*

Дрыгацелі фабрыкі нэрвовым гулам гудкоў. Разносіўся піонэрскі сыгнал.

*Леніна*—няма! ён памёр, але жывуць юныя Ленінцы—піонэры, якія давядуць яго справу да канца.

**Ярат.**






А. Бязыменскі

Зямля ўся ўзбурана рабочымі рукамі:
Няма ў руках чагось—абшастаны ўвесь сьвет.
— Скажы мне, партыя, скажы, чаго шукаеш?..
І голас сумны адказаў мне: „Партбілет“.

Адзін маленечкі... а ў сэрцы сілы мала,
І ў сэрцы з роспачы апошні сьлед прапаў.
Учора толькі я ў руках яго трымала,
Ды сьмерць ударыла, і партбілет упаў!..

Гэй, пролетары! Ці можа стацца гэта?
Хто права сьмерці даў жыцьцё яго парваць?..
Ня стала аднаго маленькага білета,
А ў целе партыі нязьмераны правал.

Я слухаў партыю і боль яе адчуў я,
І стальлю мускулаў налілася рука...
Гэй, слухай, партыя! Ці чуеш ты, ці чуеш?
Цябе вітаю я, рабочы ад станка.

Хай сэрца сьціснута жалобаю нязьмернай,—
Я ў шэрагі твае пашлю мільённы вал,—
Вал пролетарыяў пад сьцягам Комінтэрну
Запоўніць ў партыі распалены правал...

І першы я іду. Іду з зямлі саветаў!
Ты чуеш, партыя? Хай ведае ўвесь сьвет—
Праз пару месяцаў сто тысяч партбілетаў
Заменяць Ленінскі загублены білет.

# Беларускія лягэнды аб кастрычніку і Леніну.

## Певень.

...А быў у нас ліхі час, такі ліхі, што ня дай бог...

Адзін аднаго лупілі: Каза—лазу, воўк—казу, мужык—воўка, пан—мужыка, пана—юрысты, а юрыстаў—чартоў трыста...

Жыцьця ня стала нікому, а найбольшае ліха мужыку прышло.

Быў час: паны прынясуць кошык яек—давай яму гэтулькі курачак.

Ад таго і певень перастаў добра сьпяваць:

Чулая птушка!

Перастаў певень сьпяваць панастаяшчаму—людзі і час ня сталі ведаць.



*... як павесілі пана, ён і пачаў крычаць ня ў час.*

А калі закрычыць у дзень ня ў час—ведай, не на дабро.

А пасьля зусім сьціх.

Дзівяцца ўсе, куды голас у пеўня падзеўся, ніхто не разумее.

Але тут бачыў адзін пан... А было гэта так: вялі яго на шыбельніцу—не пагадзіўся ён з панамі. Мужыкі з хат павыскаквалі, кланяюцца яму, каб злым ня быў, як з вяроўкі сарвецца.

Пан убачыў, што кланяюцца і гаворыць:

— Ня кланяйцеся, мужычкі,—ваш час прышоў, а я ў вас—астатні пан—больш ня будзе.

Ня вераць мужыкі і ўсё кланяюцца. Божыцца пан, што праўду гаворыць, а пасьля закляўся:

— Ня верыце мне, так певень ваш праўду ўбачыць: моцна крычаць будзе...

І зноў дзівіліся ўсе: ня было голасу ў пеўня, а тут як павесілі пана, ён і пачаў крычаць ня ў час. З тых пор і паны зьвяліся.

Ото чулая птушка!..

Сталі мы самі паны, і певень добра ноч на тры разы дзяліў, а калі крыкне ўдзень ня ўпору—чакаць нам ліха або радасьці.

Такая справа была раз. Расьсьпяваўся певень удзень ня ўпору—чакаем або таго, або іншага... Скончыў певень, тут і ёсьць:гудкі па ўвесь сьвет—*Ленін памёр...*

Памёр Ленін і зноў певень добра ноч на тры палавінкі дзяліў, а ўдзень маўчыць.

Ото чулая птушка!..

Пракрычаў певень на трэці раз удзень ня ў пору: ізноў мужычкі чакаюць або ліха, або радасьці. Так і вышла.

Прывязьлі на сяло паперу вялікую, друкаваную, а там—маніфэст на дзесяцьвузлоў.

Кожны вузел з падарункам, ото—штука!

Усьцешыліся мужыкі: залатым пшаном сталі пеўня карміць і пастанову вынесьлі:

— Ня рэзаць пеўня, добрагалосную птушку—маніфэст высьпяваў.

Ото чулая птушка!..

## Залатыя зярняты.

...Таксама было!.. Тры гады рвалі зямлю, крывёй палівалі, усе балоты чырвонымі сталі. Устанавілі ўладу сваю пасьля, а мужыкі гавораць:

— Без замацаваньня немагчыма ўладзе савецкай быць.

Новых паноў чакайце.

— Якога такога замацаваньня?

— Такога... Павінен чалавек такі знайсьціся, усю зямлю сваімі нагамі абысьці, тады і ўлада стаяць будзе.

А то—чакайце паноў паганых. І сапраўды: вось яны... Яшчэ ня высахлі балоты ад крыві, давай з мужыцкіх сьпін выкачваць. А то сказаць—іх і так мала засталося, больш удовы з дзецьмі Чулі паны, што павінен быць такі чалавек на балотах, і загад абвясьцілі: ня пускаць па начах падарожных людзей.

Вось і прыходзіць у горад Галан падарожны чалавек. Зайшоў у адзін дом—ня пускаюць, у другі—ня пускаюць. Хадзіў, хадзіў, хоць памірай—нідзе ня пускаюць. Пайшоў на балота за горад Галан.

Ідзе і думае:

—Дай вось зайду ў крайнюю хату, можа і пусьцяць.

Зайшоў. Бачыць жанчына ўдава з дзіцянём, калыску гойдае...

— Ці ня можна пераначаваць у цябе, бедная жанчына?

— Не, ня можна: загад у нас такі паны паганыя абвясьцілі.

— Ну, я пасяджу крыху, пакуль зорка ўзыдзе, і пайду, калі ня можна—сказаў падарожны чалавек і на лаўку сеў.

— Не, ідзі: у нас каторы год зоркі ня ўсходзяць...

Падарожны чалавек выняў з кішэні пяць зярнят пшаніцы, і хата засьвяцілася сьвятлей, чымся ад сонца...

— Вось, вазьмі сабе зярняты—сказаў чалавек,—у цябе і сьвятло і хлеб будзе за ласкавае слова.

*...і хата засьвяцілася сьвятлей, чымся ад сонца.*

— Ды я-ж бедная, дзіўны чалавек—крыкнула жанчына.—Мне-ж плаціць нечым за іх!

— Я панам не даю зярнят...

Заплакала бедная жанчына ад радасьці і палажыла падарожнага чалавека на печы. Палажыла, а сама да млына накіравалася з зярнятамі. Прывезла дамоў пяць асьмін мукі пшанічнай.

Раніцаю сабраўся чалавек у дарогу, а жанчына пытаецца:

— Застаў мне імячка тваё. Я-ж ня буду ведаць, хто даў мне такія цудоўныя зярняткі

— Завуць мяне, жанчына, *Ленін*.

Сказаў і пайшоў.

Даведаліся паны ад мельніка, што ва ўдавы на краю гораду падарожны чалавек гасьціў, паслалі пасланца, каб на катаваньне яе прывесьці. Тым часам падарожны чалавек вярнуўся да жанчыны і кажа ёй!

— Цябе паны катаваць рыхтуюцца. Бяры сваё дзіця і выходзь з гораду, ідзі проста і не аглядайся.

Вышла жанчына з гораду. Махнуў рукой падарожны чалавек, паліў страшны дождж і затапіла адразу ўвесь горад Галан. Адзін толькі камень застаўся на ўспамін, падобны да жанчыны з дзіцянём, у якой начаваў вялікі чалавек...

Так і прагнаў гэты чалавек паноў паганых. Вось з таго часу і ўлада стала моцная і зорка з пяці зярнят засьвяцілася. Залатыя былі зярняты гэта...

Запісана ў Аршанскай акрузе.

**Мы—партыя будучыны, а будучына належыць моладзі. Мы—партыя наватараў, а за наватарамі заўсёды ахвотней ідзе моладзь. Мы—партыя самаахвярнай барацьбы са старым гнільлём, а на самаахвярную барацьбу заўсёды першаю пойдзе моладзь. ЛЕНІН.**

# Так завяшчаў Ільліч.

Шпаркімі крокамі прыбліжаўся канец 1-га паўгодзьдзя. У школе здавалі залікі. Шмат якія хлопцы ўжо здалі іх. У вялікіх клясных часопісах, у тонкіх графіках выстаўляліся ўзорныя „зд.“, „в. зд.“

...Нэрваваўся Віцька. Ён не прапрацаваў аніводнага заданьня, ніводнае здавальняючае паметкі ў клянай часопісе супроць яго прозьвішча! Усё запытальныя ды клічныя адзнакі.

Рыхтавацца да залікаў, во як ня хочацца! Згодзен Віцька ўцягнуць у піонэр-атрад ля 5-ці бяспрытульных, згодзен 3 даклады зрабіць, насьценгазэту кожны тыдзень выпушчаць... На ўсё згодзен Віцька, але вось—залікі?

* * *

Позна за вячэраю спытаўся ў Віцькі бацька:

— Віць... Ці верна тое, што вучышся кепска ты?

За словам Віцька ў кішэню не палезе. Віцька выдатны прамоўца, Віцька выдатны апанэнт і ён адказвае:

— Кінь, бацька, хлусьня гэта. Мне ўсяго там 2-3 залікі...

Бацька ў Віцькі партыйны. Добра разумее сына. Ня верыць яму.

— Ведаю я. Загадчык гаварыў...

Віцьку гэта, што абух па галаве. Прыціх, нічога не гаворыць, і толькі думкамі з сабой перамаўляецца...

— Бачыш, даведаўся такі. Хто-ж гэта сьвіньню падкладвае?

Пасьля вячэры—спаць. А Віцьку ня сьпіцца. Думае.

Памятуе Віцька, як у мінулым годзе першым вучнем лічыўся. А ўсё сапсаваў Дальтон-плян. Як даведаўся Віцька, што куды хочаш, туды ідзеш, калі хочаш, тады вучышся, так і пайшло.

Днём на катку, вечарам у піонэр-атрадзе, а вучоба—заўсёды пасьпее.

Кожны вечар Віцька рашаў пачаць рэгулярна займацца, а раніцою йшоў на каток ці кніжкі чытаў.

Думае Віцька і рашае:

— Заўтра пачынаю рыхтавацца да залікаў.

...Блытаюцца думкі, пераплётваюцца зусім ня так, як Віцька жадае, галава цяжкая становіцца... Засынае Віцька. І неяк праз сон чуе, бацька гаворыць:

— Трэба ў піонэр-атрад сказаць. Абавязкова дапамогуць.

* * *

Віцька такі ў школу пайшоў. Адразу-ж у фізычны габінэт. Узяў першае заданьне, углядаецца ў кнігу. Няма аніякае ахвоты. Чытае формулы, а думае зусім аб іншым.

— К чорту ўсё. Плюю. У другім паўгодзьдзі ўсё паздаем.

А насустрач Міколка Якаўлеў—памоцнік павадыра атраду.

— Чуеш. Даручаем на сходзе ў трамвайным дэпо зрабіць даклад аб жыцьці і сьмерці Ільліча.

Віцьку гэта як плюнуць. На даклады ён мастак.

Бібліотэка, кнігі... Віцька зноў дома.

Перад ім „прамова на III зьезьдзе РЛКСМ“, „Піонэры і Ленін“, аўтары—Бухарын, Ліліна, Горкі, Максіна...

Чытае Віцька. Хутка выкрышталізоўваюцца тэзісы дакладу. Мільгаюць лісткі кніжак. Вось Уладзік у дзяцінстве, далей Уладзімер—студэнт, а вось і дзядуля Ільліч. Гэта ўсё партрэты.

Паабедае Віцька і зноў за даклад.

Кахае Віцька Ільліча. Усё што піша—згодзен выконваць. Таму-ж Віцька і зьмена.

Чытае ён:

„Галоўная задача нашай моладзі—вучыцца, вучыцца і вучыцца. Той, хто ня выконвае гэтага, той ня выконвае завета вялікага настаўніка, той некарысны для нашай дзяржавы“.

І задумваецца Віцька над пытаньнем:

— А вось вучоба? Гэта-ж таксама Ленінскі завет. Ці выконваю я?

Загастрылася думка, нэрвова Віцька кудлаціць валасы.

* * *

У школе Віцьку не пазнаюць. Зусім закапаўся ў кнігах. Каток кінуў, па калідорах больш ня лётае. Усё заданьні падганяе.

Вось грамадазнаўчы габінэт. Віцька—там. Высах увесь, займаецца.

Часам задумваецца. Але ўспомніць дарагі твар, хітрае вока і зноў паглыбляецца у падручнік.

**М. Т.**




*Апавяданьне* **Н. Беліна-Падгаецкага.** *Малюнкі* **М. Філіповіча.**

Фрыцу Лайдзігеру было ўсяго толькі дзесяць гадоў ад роду, калі яго бацька зьвярнуўся з расійскага плена ў Вену. На вайну Гэнрых пашоў яшчэ будучы бравым малайцом, а назад вярнуўся хворым і пасівеўшым бязногім калекай.

„Гэта нічога, казаў ён сваім прыяцелям, гэта нічога, што я страціў сваю нагу пад Кэнігсбэргам і цэлых два гады пасьля мучыўся ў сібірскім лягэры для палонных. Але затое я ня толькі бачыў, але і прыняў усё-ж такі ўдзел у Вялікай Расійскай Рэволюцыі, затое за гэтыя гады я пазнаў ісьціну і стаў камуністым“.

І ў соты раз ён пачынаў зноў апавядаць падрабязнасьці пра вялікія дні Кастрычніка ў Маскве. Ён апавядаў, як упала праклятая царская ўлада, як сам народ, гэты вялізарны расійскі народ, браў сьмела ўладу ў свае рукі...

Ён апавядаў і пра тое, як ён сам пад Кацярынбургам прымаў удзел у барацьбе супроць калчакоўскіх бандытаў.

Фрыц з цікавасьцю слухаў гэтыя праўдзівыя апавяданьні свайго бацькі аб далёкай краіне, і яго маладое, палкае сэрца так і рвалася туды, дзе кожны шаг апырсканы крывёю змагароў за лепшае будучае ня толькі расійскага, але і сусьветнага пролетарыята.

* * *

Мінула шмат гадоў. Цяжка жылося сям'і Лайдзігера ў Вене, у гэтым горадзе, дзе беспрацоўных можна было спаткаць на вуліцы на кожным кроку, дзе сярод працоўнага люду панавала такая лютая беднасьць, такое гора, якіх дагэтуль ня ведаў амаль што ніводзін горад сьвету. А ў гэты час там, у багатых дамох, распусныя буржуі спраўлялі раскошныя і сытыя балі, разьлівалі дарагое віно, нічога ня думаючы аб тым, што кожны патрачаны дарэмна імі рубель мог-бы адратаваць ад сьмерці галоднага беспрацоўнага чалавека.

Вырас за гэтыя гады і Фрыц. Ён ужо ўмеў добра ўладаць малатком і пілой; ён мог ужо сьмела глядзець наперад на будучыну і быў гатовым у кожны патрэбны міг замяніць сваю пілу і малаток на стрэльбу, каб ісьці на барацьбу з прыгнятацелямі і здабываць волю, па

## Гэта было 9 студзеня.

*Гэта было дзевятага студзеня,*
*Калі ня вытрываў бедны народ...*
*Аб дні гэтым ніхто не забудзе;*
*Аб ім памяць жыве кожны год.*
*Тады рушыўся шчыльна народ*
*Да цара, як да бацькі свайго.*
*Усе рабочыя помняць той год,*
*Як крывавае сьвята сваё...*
*Вось бліжэй да палацу падходзяць*
*І чакаюць з надзеяй цара...*
*Але цар... замест волі, свабоды*
*Пасылае соткі салдат...*
*Празьвінелі вось першыя стрэлы:*
*Паваліліся гурбы людзей...*
*І пагасла надзея у сэрцы*
*На цара у людзкой грамадзе.*
*У гэты дзень нацярпеўся народ,*
*Гэты дзень не забыцца ніколі...*
*Азначаюць яго з году ў год,*
*Як дзень барацьбы за волю!*

*Піонэр* **В. Роліч.**

прыкладу расійскіх рабочых, на барыкадах.

Так, цяжка жылося сям'і Лайдзігера— цяжэй нават, чым шмат якім іншым рабочым, бо бацька—камуністы, сын—комсамолец. Яны былі добра вядомы ў раёне з сваімі рэволюцыйнымі настроямі, а таму, зразумела, ні аб якой большменш сталай працы і думаць не маглі.

* * *

Шуміць Вена. Глуха хвалюецца мора беспрацоўнага і бяздомнага люду, які, абураны провокацыямі буржуазіі, грозна патрабуе ад сваіх правадыроў суровай і рашучай расплаты з капіталам. Але правадыры—меншавікі, сацыялістыя, правадыры-здраднікі маўчаць і быццам ня чуюць настойлівага пролетарскага клічу. Гэтыя правадыры пакорна схіляюць свае галовы перад золатам буржуазіі, клянучыся ёй у вернасьці і адданасьці. А рабочыя—ну для гэтых ёсьць заўсёды ў запасе пара звонкіх рэволюцыйных сказаў і халодны штык паліцэйскага.




*А ў гэты час буржуі спраўлялі раскошныя і сытыя балі...*

Шуміць Вена. Хвалюецца мора людзкіх галоў, патрабуючы ад улады спыненьня тэрору рабочых фашыстымі і паліцэйскімі, спыненьня перасьледваньняў і спыненьня голада.

І ў той час, калі „правадыры“ важна засядалі за зялёнымі сталамі разам з прадстаўнікамі капітала, выпрацоўваючы пляны зьнішчэньня рабочага бунту, у гэты час там, у глухіх і вузкіх кварталах рабочай Вены расла хваля народнага гнева, расла і пашыралася рэволюцыйная бура. Гэта бура пагражала затапіць сабой усё навокал, зьмесьці са шляху свайго ўсе перашкоды.

* * *

— Фрыц, прачысьці добра маю стрэльбу, ды не забудзься атрымаць чым болей патронаў,—сказаў раніцай стары Гэнрых свайму маладому сыну і, задумёна пакручваючы свой сівы вус, дабавіў:

— Сёньня і мы пакажам сваёй буржуазіі, дзе ракі зімуюць.

— Ах, Гэнрых, Гэнрых! —закрычала Гільда, белакурая венка, жонка Гэнрыха,—няўжо й ты, бязногі, пойдзеш на дэмонстрацыю? Пакінь гэту справу для маладых і здаровых!

— Глупства гаворыш, — строга нахмурыўшы густыя бровы адказаў стары Гэнрых,—каму-ж, як ня мне, удзельнік у Кастрычніка, быць на перадавых позыцыях у гэтай вялізарнай барацьбе, якую сёньня наш венскі пролетарыят пачынае супроць капітала.

І бацька з сынам, ня трацячы больш часу, моўчкі вышлі на пустую яшчэ вуліцу, хуткімі крокамі накіроўваючыся ў штаб—кватэру паўстаўшых супроць буржуазіі.

Дзіўнае, зусім нязвычайнае нешта ўяўляла з сябе Вена ў гэту гарачую ліпнёўскую раніцу. Атрады коньнікаў і пяхацінцаў паліцэйскіх пільна абхінулі сабой для варты ўсе галоўныя цэнтральныя ўрадавыя будынкі і ўстановы. Групы рабочых са старымі, яшчэ дзедаўскімі паляўнічымі стрэльбамі, рэвольвэрамі, тоўстымі загостранымі палкамі зьбіраліся featurerознымі шляхамі з акраін да цэнтра, туды, дзе на шырокім і вялікім пляцы ўзьнімаўся праклятый будынак буржуазнага суда, у якім звычайна знаходзілі прыгаворы на вечную катаргу і сьмерць рабочыя і камуністыя. І гэты будынак

запалаў, падпалены рукой, якой кіравала помста і зьдзекі з людзей. Вагністыя языкі полымя, ліжучы сьцены, цесным колам ахапілі ўвесь будынак і густой сінеючай хмарай узьнімаліся ўвысь.

Але вось неўзабаве дзесьці з другога канца пачуўся стрэл з стрэльбы, за ім другі, трэці... Гэта венскія фараоны, прыслужнікі буржуазіі распачалі сваю крывавую расправу, расьсяваючы сьмерць і мукі, але не парушаючы жалезных пролетарскіх шэрагаў.

— Фрыц, давай тваю вінтоўку, — сказаў стары Гэнрых свайму сыну, — я хачу зьняць і гэтага фараона!

Ён доўга і ўважна цэліўся на коньніка-стражніка, і, калі ўрэшце прагрымеў стрэл, адным ворагам было менш.

— Ну, вось і добра, — сказаў з радасьцю Гэнрых.

Але толькі што скончыў дагаварыць і тут-жа падкошаны шалёнай куляй паў вобземлю.

— Я паміраю за сусьветны Кастрычнік, — пасьпеў яшчэ прагаварыць ён — Фрыц адпомсьці за мяне... і даканчвай ты гэту справу...



*...і тут-жа паў вобземлю.*

Але дзякуючы чарговай здрадзе „сацыялістых“ рабочыя ня вытрымалі і рушылі назад у свае падвалы, у цёмныя хаткі на акраіны горада.

* * *

Цяпер Фрыц у Савецкім Саюзе. Паранены ў плячо і ў нагу паліцэйскімі кулямі, ён прыехаў у ліку іншых гэрояў венскага паўстаньня ў СССР, каб трохі падлячыцца, а разам з гэтым і самому ўжо як сьлед азнаёміцца з організацыяй першае ў сьвеце пролетарскай дзяржавы. Мары яго юнацкіх гадоў выпаўніліся. Ён ня толькі ўласнымі вачыма ўбачыў Саюз Савецкіх Рэспублік, але і сам прымае ўдзел ва ўрачыстых сьвяткаваньнях дзесяцёхгодзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі.

У чырвонай сталіцы, дзе ўрачыста праводзіць пролетарыят сьвята свае перамогі, у цесных шэрагах працоўных па маскоўскіх вуліцах праходзіць Фрыц горды і поўны цьвёрдае веры ў тое, што гэткую ўрачыстасьць хутка будзе праводзіць увесь сьвет.

---

## Куды зьвярнуцца

**калі падпішчык не атрымлівае часопісі?**

**Трэба даведацца аб гэтым на сваёй пошце або ў разносчыка лістоў, — там, дзе здаваў падпіску. Калі-ж яны нічога пэўнага ня ведаюць — пішы ў ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“ (Менск, Комсамольская, 25).**

**Паведамі: а) свой адрас і прозьвішча, б) дзе падпісаўся, на колькі месяцаў і № квітанцыі, в) якіх нумароў не атрымаў ці ніяк не атрымліваў.**

# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Што цікавага у нас?

*(Г. Менск, атрад № 29, імя т. Сталіна)*

Наш атрад перажыў шмат цікавых і няцікавых момантаў у сваёй працы,—кажуць піонэры аб атрадзе. Былі моманты, калі работа нічым яскравым ня вызначалася, ішла слабавата. Гэта залежала ад шмат якіх прычын. Цяпер мы ўжо можам адзначыць некалькі добрых момантаў у жыцьці і працы атраду.

**Рост атраду.**

Зараз у атрадзе налічваецца 40 чалалавек. Рост атраду ўвесь час ня спыняецца, пашыраецца атрад за лік дзяцей рабочых эльводу. Цікава, як адносяцца рабочыя да атраду. Вось машыністы сьлёсар *Шаршульскі*—рабочы з 36 гадовым рабочым стажам, які пабываўшы на вечары юбілею атрада, назаўтра-ж прывёў свайго сына запісаць у піонэры.—„Бачу, што піонэр-атрад, кажа ён, прынясе хлопцу карысьць". І далей дадае:—Я сам уступіў толькі-што ў партыю. Гэткія-ж адносіны і другіх бацькоў да піонэр-атраду.

**Вечары цікавей усяго.**

Вечары ў атрадзе заўсёды цікавы па свайму зьместу. Прывядзем, к прыкладу нядаўна праведзеныя два вечары. К Кастрычнікавай рэвалюцыі атрад падрыхтаваў ранішнік. Была падрыхтована пастаноўка п'есы, якая прайшла з посьпехам. На ранішнік сабралася шмат дзяцей і бацькоў. Пасьля п'есы дэкламацыі. Дэклямавалі ня толькі піонэры, але і дзеці пасвайму жаданьню. Агульныя-ж гульні зусім разьвесялілі ўсіх прысутных. Ранішнік яшчэ больш зацікавіў дзяцей раздачай падаркаў за сродкі заўкома. Яшчэ з большаю цікавасьцю быў праведзен юбілей атраду 15 лістапада г.г. Таму-ж да яго атрад стала і рыхтаваўся. На вечары юбілею прысутнічалі дзеці, бацькі, камсамольцы і партыйцы. Пасьля ўрачыстае часткі, дзе быў зроблен даклад аб гісторыі атраду, была зроблена ілюстрацыйная справаздача аб становішчы атраду, справаздача вельмі яскрава малявала становішча атраду: сацыяльнае, нацыянальнае і г. д. Пасьля была пастаноўка п'есы і гульні.

**Заданьні савета выконваюцца.**

За апошні час атрадам распрацована тры грунтоўныя заданьні: 1) дасягненьні эльвода за 10 год. Гэта заданьне мае асабліва важнае значэньне для атраду ў тым сэнсе, што дзеці азнаёміліся з дасягненьнямі эльвода і жыцьцём рабочых. Пасьля распрацоўкі заданьня была зроблена экскурсія, 2) аб Кастрычнікавай рэвалюцыі, 3) асаблівую-ж цікавасьць выявілі піонэры да распрацоўкі пытаньня аб гісторыі комсамолу Беларусі. Гэта пытаньне папярэдне было распрацавана па зьвеньнях і падагулена на зборы атраду. Гутарку праводзіў адзін з старых комсамольцаў—падпольны працаўнік. Таму яна прайшла жыва і выклікала ў піонэраў шмат пытаньняў.

**Зьвеньні працуюць па назьве.**

Атрад падзелен на тры зьвяны. Кожнае зьвяно мае сваю канкрэктную працу.

1. Зьвяно *рабкор*. Уся праца гэтага зьвяна грунтуецца навокала насьценнае газэты, якая выпускаецца акуратна кожны месяц. У газэце ўдзельнічаюць усе піонэры. Зьвяно гэта ў большасьці складаецца з старэйшых піонэраў.

2. *Манцёр*. Па інцыацыве гэтага зьвяна зараз пры атрадзе ўтвараецца мэханічна-сьлясарны гурток, у якім будуць працаваць жадаючыя піонэры.

3. *Лётчык*. Гэта зьвяно нядаўна сумесна з „Манцёрам" наладзіла ў клюбе выстаўку. На выстаўцы былі модэлі самалётаў і іншыя вырабы піонэраў. Выстаўку наведвалі ўсе рабочыя. Зараз зьвяно арганізуе калектыўнае ўступленьне ў сябры ОСОавіяхіма.

**Запасы для лягера.**

Часта перад самім лягерам у атрадзе адчуваецца недахоп сродкаў. Але калі іх пачаць своечасова запасіць, дык можна назьбіраць. Вось гэткія зборы па капейцы-дзьве і праводзяцца ў атрадзе праз цэлы год.

А. Кучар.

# У нашай школе гурткі працуюць.

## Сталярны гурток.

У сталярным гуртку працуе 30 вучняў. Усе хлопцы падзяляюцца на 3 групы, у кожнай групе па 10 чалавек.

Сродкі на гурток дае школа, яна купіла гуртку 2 сталярных варстаты, пілу, гэблікі, сякеру, малаток, словам усе сталярныя прылады і ўтрымлівае настаўніка.

Гурток дае школе шмат карыснага. Сябры гуртку зрабілі для ўсіх клясаў скрынкі для сьмяцьця, рамкі для табліц, палічкі для школьнай лябараторыі.

Усе вучні вельмі цікавяцца працай гуртка і наведваюць гурток акуратна.

**(Менская 4-ая школа).**

## Рукадзельны гурток.

У рукадзельным гуртку вучыцца 40 дзяўчат. Гурток падзяляецца на 2 групы. Кожная група праводзіць заняткі па аднаму разу. У першай групе вучацца: як рабіць петлі, мярэшкі, і г. д.

У другой групе вучацца больш цяжкай працы: як вышываць, рабіць карункі і г. д.

Працуе з гуртком настаўніца нашай школы. Кожная дзяўчынка прыносіць сваю голку, нітку і палатно і шые сабе: хто рубашку, хто спаднічку.

Гурток вельмі добра працуе і пасылае сваe экспанаты на выстаўку ў пэд. габінэт.

**Мятліцкі.**

---

# Як я стаў падпісчыкам.

Гэтая ўся справа адбылася ў лютым 1927 году.

На гэты дзень была назначана экскурсія на завод „Варшавянка“, але экскурсія не адбылася і мы асталіся катацца на каньках і лыжах у гарадзкім садзе.

Але вось паказаўся чалавек з фотоапаратам. Я крыкнуў:

— Эй, дзядзька, зьнімі нас!..

— Пачакайце.

Мы пачалі зноў коўзацца, але ён падыходзіць да нас і кажа:

— Ну, садзецеся!

Мы селі на лаўцы.

Ён і кажа:

— Сьмейцеся...

Мы і пачалі сьмяяцца. Ён апусьціў нейкую чырвоную трубку, пстрыкнуў за пузыр, і мы зьняты.

Я і пытаюся:

— Дзядзька, а дзе наша фатаграфія?..

— Будзе ў 5-м нумары часопісі „Беларускага Піонэра“.

З таго часу я пачаў шукаць 5-га нумару „Бел. Піанэра“, але нідзе ня было.

Аднаго разу бег я на пошту. Убачыў на дзьвярах вывеску, на якой пісалася: „Прыём падпіскі на ўсе журналы і газэты“. Я спыніўся і пытаю: „Ці можна ў вас падпісацца на „Бел. Піонэр“?..

Можна.

А колькі каштуе на месяц?..

— 20 капеек.

На другі дзень я ўзяў 80 капеек і пайшоў падпісацца на 4 месяцы.

Калі прышоў да мяне першы нумар часопісі, я быў вельмі здаволены. Прачытаў першую старонку, пасьля апавяданьне „Напралом“, адгортваю далей і—пазнаю сваю картку.

Я вельмі цікавіўся кожным сьвежым нумарам і карыстаўся ўсялякімі парадамі. Так, напрыклад, адна парада ў 7-м нумары часопісі—як выводзіць ёдныя плямы—прынесла карысьць ня толькі мне, але ўсяму нашаму двару.

Кожны нумарок часопісі я прачытваю і кладу ў вокладку, так зьбіраю за цэлы год.

Піонэр **Васілеўскі.**






Белыя сьняжынкі
Кружацца, лятуць.
Чорныя лагчынкі
Засьцілае пух.
І куды ня глянеш—
Белая зіма,
Быццам над палянай
Застые туман.
І настала радасьць—
Нажылі канькі.
На'т, ня страшна падаць
Ў хараcтве такім.
І калі над вёскай
Сонца дагарыць—
Чую дзесьці лёскат,—
Гэта на гары
Мчацца дзіка санкі,
Сьвішчуць сталь-канькі.
Толькі штосьці Янка
Сёньня не такі.
Ён стаіць маўклівa
Не згадаць чаго?
У вачох імклівасьць,
У вачох агонь.
Ой, відаць, прыдумаў
Штосьці зноўку ён,
Залатыя думы,
Валасы, як лён.
Дні лятуць няспынна,
А дзіцячы сьмех
Ўсё зьвініць на горцы,—
Хтосьці ўпаў у сьнег.
Толькі штосьці Янкі
Ня відаць зусім:
Ён майструе санкі
На зьдзіўленьне ўсім.
Ах, і будуць санкі!
Проста любата:
Іх ня будзе Янка
Ня гару цягаць.
На дарозе роўнай
Станаві, катай,
Накіроўвай роўна...
Санкі—любата!
Накруціў за кола—
Санкі і пайшлі.
Вось чаму як з школы
Прыдзе наш малыш,—
Не бяжыць на горку
(Ня відаць яго),
Робіць ён напорна
Санкі-самаход.
Сёньня ціш на горцы.
Дзе-ж то малышы?
Чую па гаворцы,
Што пашлі на шыр,
У прастору тую
Дзе бярозаў рад,
Сёньня, бач, прабуюць
Янкаў самакат.
Гэтакае дзіва—
Выйду пагляджу:
Ўсе стаяць маўклівa...
Самакат загуў.
І ня веру вочам
Я старым сваім:
Санкі самі строчаць
Па шляху сівым.
А на гэтых санках,
Быццам старшыня,
Радуецца Янка,
А за ім—гайня:
Цэлай чарадою
Дзеці ўсе бягуць:
— Вось дык Янка ўстроіў!
— Вось дык дзелапут!..
Санкі-самакаткі
Мчацца ўсё шыбчэй.
Дзеці плешчуць ў ладкі:
Янка зьнік з вачэй.
Праляцелі чуткі
Па усім сяле:
Янка будзе хутка
Пэўна інжынэр.

Запалала радасьць
Ў бацькавых вачох:
Я вучыўся мала,
Болей, брат, ня мог.

Не давалі цёмным
Граматы людзям,
Іншае сягоньня
Дае ўлада вам.

— Дык вучыся, сыне,
Будзеш інжынэр.
Вольную краіну
Будаваць умей!

Гэтак кажа Янку
Бацька яго Клім.
Запаветы споўніць
Абяцае сын.

Вучыцца ён добра,
Ў хаце працаўнік:
Возіць матцы дровы,
Дрэўкі на лучнік.

А калі парадкі
Ў хаце навядзе,
Ўзяўшы самакаткі,
Пагуляць ідзе.

П. Асот.

---

# Гутарка доктара.

## Што такое адзёр.

Адзёр лічыцца самай пашыранай хваробай сярод усіх іншых хваробаў. Зараза перадаецца непасрэдна ад хворага да здаровага. Гэта адбываецца так: калі хворы на адзёр смаркаецца ці плюе, каплі макраты пападаюць у рот ці ў нос здароваму, які ўсьлед за гэтым зараз-жа можа захварэць *).

*Як пачынаецца хвароба?* Спачатку зьяўляецца невялікі насмарк, хворы патроху пачынае кашляць; вочы ў хворага пачынаюць сьлязіцца; тэмпэратура павялічваецца; хворы нэрвуе. Пасьля зьяўляецца сыпка: спачатку на твары, а пасьля і на ўсім целе. Сыпка складаецца з цёмна-чырвоных розналй велічыні плямак-болечак. На працягу 1—2 сутак усё цела абсыпаецца такімі плямкамі. Адначасна з сыпкай значна ўзьнімаецца гарачка, павялічваецца кашаль і чыханьне, вочы васпаляюцца і становяцца ярка-чырвонымі. З прычыны васпаленьня вачэй хворы ня можа глядзець на сьвет, які падае проста перад вачыма. Плямы трымаюцца адны ці двое сутак, іншы раз некалькі больш, а пасьля прападаюць. Гарачка спадае і, у лепшых умовах, дзіця ў працягу аднаго тыдня зусім выздаравее. Але не заўсёды, зразумела, так гладка праходзіць хвароба. Бывае, што адзёр выклікае яшчэ васпаленьне лёгкіх. Тады хвароба становіцца вельмі сур'ёзнай і можа працягнуцца на доўгі час.

У агульным трэба памятаць, што адзёр ужо не такая маленькая хвароба як гэта некаторыя думаюць. *Вось чаму трэба ўсімі сіламі старацца ўсьцерагчыся ад хваробы.* Для гэтага трэба заўсёды адзяляць хворых дзяцей ад здаровых. Дзеці з тых хат, дзе ўжо хто-небудзь захварэў на адзёр, не павінны наведваць школу на працягу ўсёй хваробы і два тыдні пасьля хваробы.

Часта сярод насельніцтва яшчэ і цяпер трымаецца тая думка, што быццам адзёр абавязковая хвароба для чалавека, ім кожны павінен хварэць. Гэткі пагляд зусім, зразумела, няправільны. Можна пражыць усё жыцьцё і не хварэць на адзёр.

У народзе думаюць таксама, што „адзёр“ баіцца сьвету. З гэтай прычыны ў хаце хворага заўсёды завешваюць вокны так, каб не папаў да хворага ніводзін соўнечны прамень. Праўда, васпаліцельнымі вачыма цяжка глядзець на сьвет, але поўная цемната ня толькі некарысна, але вельмі шкодна, бо сьвет неабходны для кожнага чалавека, асабліва для хворага. Але для таго, каб сьвет ня падаў проста ў вочы, даволі, напрыклад, адзець на лямпу абажур з паперы.

Доктар **М. Сандамірскі.**

*) Ад часу заражэньня да часу самой хваробы праходзіць ад аднаго да двух тыдняў.

# Вольны час праводзь весела і цікава.

Ты прыходзіш у клюб свайго атраду. Тваё зьвяно яшчэ не сабралася, да пачатку заняткаў яшчэ шмат вольнага часу. Альбо ты прышоў у атрад у той дзень, калі тваё зьвяно не займаецца. Рабіць табе, як быццам, няма чаго. Урокі ты падрыхтаваў, газэтку прачытаў—і ты, пазяхаючы, ходзіш з кута ў кут, шукаючы для сябе што-небудзь цікавае для заняткаў.

Падумай, пашавялі мазгамі: магчыма, якую небудзь працу і знойдзеш для сябе? А мы пастараемся дапамагчы табе.

### Зайдзі ў другое зьвяно.

Чаму табе не зайсьці на заняткі ў другое зьвяно. У адным атрадзе мне піонэрка расказвала, што ў іх уведзены такі звычай: калі піонэр вольны, ён заходзіць на заняткі другога зьвяна. Піонэр старэйшага зьвяна ў малышоў заўсёды можа быць карысным памоцнікам, да яго заўсёды зьвернуцца з пытаньнем, ён зможа паказаць новую гульню, выправіць памылку павадыра зьвяна пры правядзеньні гутаркі. Піонэр з малодшата зьвяна, які прысутнічае на занятках старэйшых зьвён, зможа многаму ў іх навучыцца.

Напэўна, і ў другіх атрадах практыкуецца тое-ж самае. Калі ў тваім атрадзе гэта не праводзіцца—пачні сам. Зайдзі на заняткі зьвяна, дапамажы там таварышом, павучыся ў іх зьвеньнявой рабоце.

Трэба толькі рабіць так, каб наведваньні другіх зьвён было справай неабавязковай. Калі піонэр вольны — ён прыходзіць на заняткі другога зьвяна атрада. Калі ён хоча запоўніць свой вольны час чым-небудзь іншым—няхай пашукае для сябе іншых заняткаў.

Вось, напрыклад, можна цікава правесьці свой адпачынак, робячы рэпэтыцыю „ўласнага аркестра“. Як яго наладзіць, ты можаш пачытаць у „Беларускім Піонэры“ № 7 за 27 год. Паспрабуй адшукаць гэты нумар і, падабраўшы вольных і жадаючых працаваць піонэраў, арганізуй з імі шумавы оркэстр. Ваш оркэстр праз некаторы час зможа выступаць на вечарох атрада і другіх вечарох.



*Забаўна і здарова!*

### Шахматны матч у вольны час.

У многіх атрадах піонэры вельмі цікавяцца гульнёй у шашкі і шахматы. Падайдзі к століку і папрасі другога вольнага ад працы піонэра сыграць з табою партыю. Калі твой таварыш іграць ня ўмее—пакажы яму правілы гульні. Не задзірай нос! Ня думай, што ты „шахмацісты“ і табе ня цікава гуляць з навічком. Пасьля некалькіх практыкаваньняў, хто-небудзь з навічкоў зможа з посьпехам у цябе выйграць партыю—другую... Помні гэта і ў тым выпадку, калі ты ня ведаеш гульні. Сядзь за столікам і папрасі навучыць цябе.

Калі ў атрадзе ёсьць некалькі піонэраў, якія граюць у шашкі альбо ў шахматы, можна організаваць сярод іх спаборніцтва—матч. Звычайна ў матчах кожны гуляка павінен сыграць з усімі іншымі. Выйграная партыя лічыцца за адзін балл, прайграная—0, партыя ў нічыю дае па $^1/_2$ кожнаму гуляку. У канцы матча робіцца падлік і, атрымаўшы большую колькасьць баллаў, прызнаецца самым моцным гулякам; іх патрэбна высоўваць на раённыя і гарадзкія матчы.

Покуль ты вольны, напішы абвестку аб адчыненьні шахматнага (альбо шашачнага) матча. Усе жадаючыя павінны заправерыцць орыгінал.

пісаць свае прозьвішча ў ліст, які ты разрысуеш так:

ВЫНІКІ ШАХМАТНАГА МАТЧА

..........................атрадуюных піонэраў

| | Прозьвішча | Пятроў 1 | 2 | Мацьвеяў 3 | 4 | і г. д. | Агульная коль-касьць балаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Пятроў | | | 1 | | | |
| 2 | | | | | | | |
| 3 | Мацьвеяў | 0 | | | | | |
| 4 | | | | | | | |
| | і г. д. | | | | | | |

Прозьвішча трэба пісаць, як на паземных так і на вертыкальных лініях пад аднымі і тымі-ж нумарамі. Адзнака балаў робіцца такім чынам: уявім сабе, што гуляка № 1 выйграў у гулякі № 3. Па гарызантальнай лініі першага гулякі знаходзіцца месца сячэньня з вяртыкальнай рыскай трэцяга і ў гэтай клетцы ставіцца 1. Па гарызантальнай рысцы трэцяга гулякі ў месцы сячэньня з вяртыкальнай рыскай першага ставіцца—0. Месца сячэньняў аднаго і таго-ж гулякі трэба заштрыхаваць бо сам з сабой ніхто іграць ня будзе.

Няма ніякай патрэбы праводзіць матчы ў стала вызначаныя дні і часы. Гэта робіць толькі новую нагрузку для ўдзельнікаў. Лепш за ўсё спаборніцтва праводзіць бяз стала вызначанага часу. Ты, напрыклад, сыграў ужо з першым і чацьвертым таварышом. А сёньня ты бачыш, што гуляка № 7 вольны, таксама, як і ты. Садзіся і гуляй з ім. Пасьля гульні вы адзначыце вынікі на лістку і пойдзеце адшукваць другіх вольных гульцоў.

Запіс на спаборніцтвы рабіць ня трэба. Лепш за ўсё вывесіць ліст вынікаў на відным месцы і кожны, жадаючы прыняць удзел у матчы, сам запіша свае прозьвішча, як па вярцікальнай, так і па паземнай рысках.

**Зрабі настольную гульню.**

Я ведаю некалькі атрадаў, піонэрам якіх вельмі прыеліся шашкі і шахматы. У такіх выпадках на дапамогу прыходзяць розныя „настольныя“ гульні. Такім гульням ня трэба многа вучыцца і сама гульня цягнецца ня доўга: ёсьць у 2-х ці 3-х піонэраў вольных 10 хвілін, заселі і сыгралі.

Настольных гульняў ёсьць многа. За невялікую цану іх можна купіць у любой кнігарні альбо ў краме, дзе прадаюцца розныя дзіцячыя цацкі. У другім нумары мы раскажам, як зрабіць самому гэтыя гульні ў тым выпадку, калі няма за што іх купіць.

**Піонэр-працаўнікі, піонэры і вучні**

*павінны ведаць, што пры ЦБЮП організаваны і працуе* **Цэнтральны Піонэрскі габінэт.**

*Задача габінэту: дапамагчы ў рабоце піонэр-працаўніку, піонэру і вучню. Вас цікавіць, або зьяўляецца не зразумелым якое-небудзь пытаньне—зьвяртайцеся ў габінэт,—вам адкажуць, растлумачаць.*

*Вам патрэбна будзе ведаць, якія ёсьць новыя песьні, гульні, кніжкі і г. д. зьвяртайцеся ў габінэт.*

*Вы хочаце, каб ведалі ўсе атрады, школы аб тым, што ў вас у атрадзе карыснае, цікавае праводзіцца—напішэце аб гэтым у габінэт, які перадасьць ваш вопыт усім атрадам. Прысылайце фотографічныя здымкі. Каб лепш працаваў ваш Цэнтральны Піонэрскі габінэт—дапамагайце яму ў рабоце.*

*Прысылайце матар'ялы, запытаньні і ўсё іншае па адрасу:*

**Менск, Комсамольская № 25, Рэд. „Беларускі Піонэр“ (для Габінэту)**

# Ад чаўна да сучаснага акіянскага парахода.

У даўно мінулыя часы чалавек мала чым адрозьніваўся ад жывёлін. Жыў ён у пячорах, прыкрываў сваё цела скурамі зьвяроў і ўсё жыцьцё клапаціўся толькі аб здабываньні яды. Адзіным сродкам перасоўваньня ў той час былі ўласныя ногі чалавека. Але такі спосаб перасоўваньня і павольны, і досыць цяжкі. А апрача таго, ня ўсюды-ж сухазем'е: ёсьць і рэкі, і моры, і акіяны. Як-жа перамагчы гэтыя перашкоды?

І вось чалавеку прыходзіць у галаву думка скарыстаць плынь рэк для перасоўваньня з месца на месца. Спачатку ён перабіраецца толькі на другі бераг ракі на ствале дрэва, потым, навучыўшыся здабываць агонь і рабіць каменныя сякеры, ён ладзіць плот, пасьля човен і другія падобныя судны, на якіх плавае на больш далёкія адлегласьці. Паступова ён удасканаляе свае судны і адважваецца ўжо плаваць ня толькі па рэках, але і па морах.



*Першая лодка.*

Так пачалося мораплаўства, якое служыла магутным сродкам для разьвіцьця гандлю паміж старажытнымі народамі. Калі пачалося суднаходзтва — сказаць дакладна нельга. Па досьледах вучоных, Эгіпцяне яшчэ 4600 год таму назад плавалі на Ніле (рака ў Эгіпце) на сваіх доўгіх грабных суднах, на якіх перавазілі людзей, валоў і тавары на рынкі.

Пасьля эгіпцян фінікіяне—старадаўні народ, які жыў на ўсходнім узьбярэжжы Міжземнага мора, а потым грэкі, рымляне нарманы пачалі будаваць вялізныя судны, якія служылі ім як для гандлёвых, так і для ваенных мэт.

Усе старажытныя судны былі грабныя, г. зн. перасоўваліся з дапамогаю вёслаў, якімі кіравалі грабцы, разьмешчаныя па абодвух баках судна. Парус ужываўся толькі як дапаможны сродак пры падарожным ветры. Каб павялічыць хуткасьць перасоўваньня, судны будаваліся вялікіх разьмераў і на іх зьмяшчаліся да некалькі сот, а на некаторых і некалькі тысяч грабцоў, якія разьмяшчаліся ў два, тры і больш радоў адзін над другім. Так, напрыклад, у старажытных летапісах сустракаецца апісаньне аднаго Эгіпецкага карабля даўжынёю ў 43 саж., на якім, апрача 2800 ваякаў, было каля 4000 грабцоў, разьмешчаных у 10 радоў адзін над другім.

Першыя судны будаваліся адкрытымі, але паступова, для абароны ад хваляў, на іх пачынаюць рабіць палубы.

Грабныя судны мелі шмат недахватаў: па-першае—для хуткага перасоўваньня трэ' было мець многа грабцоў; па-другое, плаваць на гэтых суднах можна было толькі зблізку ад морскага берагу, таму што час-ад-часу трэ' было папаўняць запасы яды для людзей і, нарэшце, пры нязначным хваляваньні мора грэбці было цяжка і людзі хутка марыліся.

І вось у V стагодзьдзі зьяўляецца новы тып суднаў, якія перасоўваюцца з дапамогаю вёслаў і парусоў. Гэтыя парусна-грабныя судны, так званыя „дромоны“ існавалі каля 800 год.

У XIII стал. пачынаюць будавацца выключна парусныя судны, бяз вёслаў. Спачатку гэта былі невялікія судны з 2-3 парусамі, але паступова колькасьць мачт, парусаў і хуткасьць перасоўваньня ўзрастае і на гэтых караблёх людзі адважваюцца ўжо плаваць і па акіянах на больш далёкія адлегласьці.

Вялікае значэньне для разьвіцьця дальнага акіянскага мораплаўства мела вынаходка компаса—асобнай прылады, з дапамогаю якой можна пазнаваць староны сьвету.

З канца XV стагодзьдзя пачынаюць адбывацца падарожжы ў далёкія краіны. У 1492 г. гэнуэзец *Хрыстафор Колюмб* адпраўляецца на сваіх „каравэллах“ (так называліся парусныя караблі Колюмба) на захад, шукаць выгодны шлях у Індыю і пасьля 70-дзённага плаваньня трапляе ў... Амэрыку, дзе наганяе страху амэрыканскім „індзейцам“ сваімі гарматамі, страляўшымі каменнымі ядрамі...

Пачынаючы з гэтага часу адбылося шмат кругасьветных падарожжаў, дзя-

куючы якім былі зроблены вялікія географічныя вынаходкі.

К пачатку мінулага стагодзьзя парусныя судны ўдасканаляюцца нагэтулькі, што на ўсіх можна плаваць бяз ўсякай рызыкі на якой хочаш адлегласьці. Хуткасьць іх таксама павялічылася і ў сучасны мамонт дасягае хуткасьці грузавых параходаў. Утрыманьне парусных суднаў абыходзіцца вельмі танна, таму што парусны рухавік не каштуе ніводнае капейкі. Дзякуючы гэтаму парусныя караблі ўжываюцца і цяпер, галоўным чынам, для перавозкі танных грузаў і для вучэбных мэт...

Ня гледзячы на цэлы шэраг пераваг, парусныя судны мелі той галоўны недахват, што перасоўваньне на іх у значнай ступені залежала ад сілы і напрамку ветру.

І вось у канцы XVII ст. вынаходца параатмосфэрнай машыны *Папін* будуе першае паравое судно. Аднак, ноччу судно было спалена лодачнікамі, якія баяліся страціць заробак, дзякуючы новай вынаходцы.

Прайшло каля 100 год. У 1769 г. ангелец *Джэмс Уатт* вынаходзіць паравую машыну, пасьля чаго справа з пабудовай паравых суднаў пасуваецца значна ўперад.

Раней чым перайсьці да апісаньня далейшага шляху разьвіцьця параходаў, я пазнаёмлю вас каротка з паравой машынай. Усім, напэўна, вядома, якую сілу мае пара. Калі мы, напрыклад, возьмем бутэльку вады, заткнем яе затычкай і пачнем падаграваць на агні, то як толькі вада закіпіць і пойдзе пара, затычка з вялікай сілай выпхнецца з бутэлькі.

Вось гэту сілу пары і скарыстаў для сваёй машыны Уатт. Ён зрабіў жалезны цыліндр, у якім зьмясьціў штурхач (поршэнь), які шчыльна прылягаў да сьценак цыліндра і мог рухацца ўгару і ўніз. Побач з цыліндрам знаходзіўся кацёл, у якім кіпела вада. Пара з гэтага катла трапляла праз асобную трубку ў цыліндр. Для таго, каб штурхач рухаўся ўгару і ўніз, у цыліндры былі зроблены дзьве дзіркі: адна вышэй, другая ніжэй. Асобная засаўка (так званы „Залатнік“) зачыняла па чарзе то верхнюю, то ніжнюю дзірку. Засаўка гэта перасоўвалася, як патрэбна, самой машынай. Калі засаўка зачыняла верхнюю дзірку, пара праходзіла ў цыліндр праз ніжнюю і пхала штурхач угару. Як толькі штурхач даходзіў да самага верху, ніжняя дзірка зачынялася, а верхняя адчынялася і пара, праходзячы праз яе, пхала штурхач уніз. Такім чынам штурхач рухаўся то ўгару, то ўніз, а разам з ім рухаўся і прымацаваны да яго жалезны прут. Цяпер ужо ня цяжка было прымацаваць да прута кола так, каб яно круцілася... Трэба адзначыць, што сучасныя паравыя машыны ў сваёй асноўнай пабудове маюць шмат агульнага з машынай Уатта...

Пасьля вынаходкі паравой машыны ў розных краінах шмат людзей занялося пабудовай параходаў. Асабліва многа працавалі ў гэтай галіне француз *Жуфруа*, амэрыканец *Фіч* і ангелец *Саймінгтон*, аднак пабудаваныя імі параходы ня мелі амаль ніякага практычнага значэньня. Толькі ў 1807 годзе амэрыканцу *Робэрту Фультону* ўдалося, пасьля доўгай і ўпартай працы, пабудаваць першы практычны калёсны параход, які быў названы „Клермонтам“. Параход гэты меў у даўжыню 19 саж. і прыводзіўся ў рух машынай Уатта ў 20 конскіх сіл *) якая круціла колы.

11 жніўня 1807 г. адбылася першая



*Першы параход.*

*) Конскаю сілай лічаць такую сілу, якая затрачваецца на падняцьце 75 кілёграмаў 4 п. 26 фна вышыню 1 мэтру (1,4 арш.) у адну сэкунду.

спроба парахода. Жыхары Нью-Йорку сабраліся на прыстані, каб паглядзець на новае нябывалае судно. І калі „Клермонт“ крануўся з месца і паплыў па рацэ, зьнікаючы з вачэй гледачоў, натоўп гучнымі воплескамі і радаснымі крыкамі вітаў вялікага вынаходніка...

Пачынаючы з гэтага часу параходзтва разьвіваецца вельмі шпарка. Спачатку параходы будаваліся з дрэва, але паступова дрэва замяняецца жалезам, паравыя машыны ўдасканаляюцца, хуткасьць павялічваецца.

У 1838 годзе два параходы „Сірыус“ і „Грэт-Вэстэрн“ упяршыню пераплываюць праз Антлянтыцкі акіян —першы ў 19 дзён, а другі у—15.



*Параход „Маджэсьцік“.*

Прайшло некалькі год і паміж Эўропай і Амэрыкай пачало хадзіць шмат параходаў. У канцы XIX ст. была вынайдзена паравая турбіна, якая ўжываецца цяпер замест паравой машыны на параходах. Замест колаў ужываецца асобная грабная труба, накшталт пропэлера. Гэта шруба ўшрубоўваецца ў ваду як гляпцар ці сьвідар і цягне за сабою карабель. Дзякуючы гэтым заменам хуткасьць параходаў значна ўзрасла...

Апошнім дасягненьнем тэхнікі ў справе пабудовы параходаў зьяўляецца акіянскі параход „Маджэсьцік“, які да імпэрыялістычнай вайны належаў да Нямеччыны, а пасьля Вэрсальскай згоды быў адабраны Антантай і перададзены Англіі. Ён мае ў даўжыню 291 мэтр. (140 саж.) і важыць каля чатырох мільёнаў пудоў. Хуткасьць яго дасягае 48 кілёмэтраў у гадзіну. Трубы парахода волата ўзвышаюцца на 21 саж. над роўнем мора. У кожнай з гэтых махін можа зьмясьціцца па два цягнікі.

Па люднасьці—гэта цэлы горад: на ім, апрача 1100 чалавек каманды, зьмяшчаецца 4000 пасажыраў, якія адчуваюць сябе на гэтым параходзе ня горш, а мо' нават і лепш, чым на сухазем'і... Ды і ня дзіўна! Чаго толькі няма на гэтым параходзе-волаце! Прыгожыя памяшканьні, асьвятляемыя электрычным сьвятлом (адных электрычных лямп на ім 15.000 шт.), вялізныя страўні, раскошныя канцэртныя залі, кіно, бібліотэка з мноствам кніг, часопісяй і газэт, пальмавыя сады, спортыўныя залі, багата абсталяваная бальніца, вадазборы для плаваньня, ванныя пакоі і душы з гарачай і халоднай вадой, электрычныя кухні і хлебапякарні, друкарня, якая выпушчае штодзённую газэту, радыё-станцыя, якая падтрымлівае бязупынную сувязь з Эўропай і Амэрыкай у часе ўсяго 5-дзённага пераезду праз акіян і шмат чаго іншага, што толькі можна прыдумаць для выгоды чалавека.

Вось у кароткіх рысах той шлях, па якім чалавецтва дайшло ад чоўна да сучаснага парахода-гораду.

**В. Суднік.**




## Задача № 1

### Колькі было авечак?

Адзін пастух гаворыць другому: „Аддай мне адну авечку і ў мяне будзе ўдвое больш авечак, чым у цябе“. Той адказвае: „Аддай ты мне 1 авечку, тады ў нас будзе пораўну“.

Колькі авечак было ў кожнага?

## Задача № 2

### Як баба спыніла машыну.

Аднаго разу машыністы, які вёў цягнік з Гомеля ў Менск, узяў на станцыі Пухавічы ў бабы глячок малака. Выпіў ён тое малако, ды і кажа бабе, жартуючы:

— А грошы, бабка, „напачакай“, другім разам аддам!

— Ого, галубук!—кажа баба—дык гэта ты маё малако выпіў ды яшчэ і сьмяяцца з мяне будзеш? Аддавай адразу-ж грошы, бо як зраблю табе, дык і з месца ня рушыш.

Машыністы, пачуўшы пра гэткую пагрозу, толькі засьмяўся:

— А ну, баба, пакажы сваю сілу, прытрымай паравоз!

А баба тая не жартавала. Калі машыністы пусьціў у ход машыну, дык хоць калёсы паравоза і пачалі круціцца, цягнік стаў на месцы, як зачараваны.

Давялося тады машыністаму заплаціць грошы за глячок выпітага малака; тады толькі баба зьняла чары і цягнік рушыў далей.

Як баба ўтрымала на месцы цягнік і як пасьля зьняла свае чары?

## Задача № 3

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| С | | | | |
| | К | | | |
| | С | К | | |
| | | С | К | |
| | | | С | |
| | | | | К |

У незанятых клетках паставіць патрэбныя літары, каб можна было прачытаць 4 словы.

## Задача № 4

Выразаць з тоўстай паперы *падкову* і ня згінаць яе. Ножнамі разрэзаць гэту падкову 2-ма просталінейнымі разрэзамі на 6 частак. (Нельга адны часткі класьці на другія). Як гэта зрабіць?



*Што вы бачыце на гэтым малюнку? Знайдзеце тут жанчыну.*

ЦАНА 12 кап.



# ХТО ЯШЧЭ НЕ РАЗЬВЯЗАЎ РЭБУСА?

ПРАВІЛЬНАЕ РАШЭНЬНЕ РЭБУСА У НУМ. 24 МАЕ ТАКІ АДКАЗ: Я ЎЖО ПАДПІСАЎСЯ НА ЧАС. „БЕЛАРУСКІ. ПІОНЭР“. КАШТУЕ НА ПАЎГОДА ЎСЯГО 1 руб. 20 кап.

Той, хто разьвязваў гэты рэбус, але не разьвязаў яго да канца (разьвязаў, але не падпісаўся)—сьпяшайся разьвязаць яго,—гэта значыць—падпісацца на «БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР» на паўгода, тады і будзеш яго чытаць.

Падпіска прымаецца на ўсіх поштах, у Менску: Комсамольская 25, у канторы „Чырвоная Зьмена“.

Заказ № 1046. У ліку 2.800. Галоўліт № 421.

1-я друкарня Бел. Дзярж. Выд.